Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

29 МАЯ - 4 ЧЭРВЕНЯ 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 3000 РУБЛЁЎ
№22 (162)

АДНА ЗЯМЛЯ

ПАДПІСКА - 98

## Ва ўсіх аддзяленнях сувязі

**СМАРГОНЬ**. Добра ідзе падпіска на "Рэгіянальную" на Смаргоншчыне. У Суцькаве, Крэве, Ардашах, Ракаўцах - ва ўсіх аддзяленнях паштовай сувязі ёсць прыхільнікі нашай газеты. Смаргоншчына традыцыйна увазодзіць у тройку лідэраў па падпісцы на нашу газету за Маладзечнам і Віліейкай. Сёння сярод тых, хто аддае перавагу паштовай дастаўцы «РГ», на Смаргошчыне 725 чалавек. Гэта калі не лічыць "Белсаюздрук". Толькі на паштовым аддзяленні ў Бялкоўшчыне пакуль няма ніводнага падпісчыка. Інструктар па падпісцы аддзялення паштовай сувязі **Валянціна Ерамецька** тлумачыць гэта выключна аддаленасцю Бялкоўшчыны ад усіх шляхоў-дарог.

Агульная ж колькасць падпісчыкаў 3754 чалавекі, або 36 працэнтаў ад агульнага тыражу.

*Аддзел інфармацыі.*

**ПАДПІСНАЯ ЦАНА НА «РЭГІЯНАЛЬНУЮ ГАЗЕТУ»:**
**на месяц - 12 тыс.руб.;**
**3 месяцы - 36 тыс.руб.;**
**6 месяцаў - 72 тыс.руб.**

МІНСК

## Вышэйшая адукацыя з ЗША

12 кіраўнікоў беларускі ВНУ і вядучых прадстаўнікоў сістэмы вышэйшай адукацыі бралі ўдзел у арганізаванай урадам ЗША праграме. Рэктары ўніверсітэтаў з Мінска, Гродна, Брэста, Полацка і трох недзяржаўных інстытутаў знаёміліся з работай амерыканскіх калег.

Пасол ЗША ў Беларусі **Дэніэл Спекхард** мае спадзяванні, што гэтая праграма дапаможа разбурыць стэрэатып, нібы амерыканскі ўрад падтрымлівае ў Беларусі толькі апазіцыйныя арганізацыі.

*Аддзел інфармацыі.*

СМАРГОНЬ, АШМЯНЫ, АСТРАВЕЦ

## У нас - "Ратуша"

На мінулым тыдні гродзенскую частку нашага рэгіёна наведалі прадстаўнікі Гродзенскага абласнога грамадскага аб'яднання "Ратуша". Старшыня **Аляксандр Мілінкевіч** і каардынатар па сувязях з няўрадавымі арганізацыямі **Таццяна Канопкіна** мэтай візіту ставілі вывучэнне магчымасцей супрацоўніцтва з дэмакратычнымі арганізацыямі, каардынацыю дзейнасці, а таксама расказалі пра сваё аб'яднанне і тыя магчымасці ў галіне інфармацыйнай падтрымкі, якую на сённяшні дзень яны маюць.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

ВАЛОЖЫН

## «Лювалу» на 40 мільёнаў

На працягу 3 дзён ва ўнівермагу праходзіла выстаўка–продаж прадукцыі Мінскага фарфоравага завода і фірмы "Лювал". Гараджанам там жа прапанавалі запоўніць анкету. А посуду прадалі на 40 мільёнаў.

*Натлля ШТЭЙНЕР.*

СМАРГОНЬ

## Адзін супраць чатырохсот

На заводзе аптычнага станкабудавання галоўная хвароба – дырэктары. За непрацяглы час тут пасядзець у дырэктарскім крэсле змаглі 4 чалавекі, але, тым не менш, значных зрухаў на заводзе не адбылося.

Некалькі тыдняў таму дырэктар змяніўся зноў. Ім стаў **Аляксандр Радзевіч**, які да гэтага часу працаваў тут намеснікам дырэктара па эканоміцы. Сваю дзейнасць на новай пасадзе ён пачаў з таго, што мяркус скараціць каля 400 інжынерна–тэхнічных супрацоўнікаў.

Магчыма, для завода ў цэлым гэта выратавальнае кола, а для работнікаў і цэнтра занятасці – як сказаць.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

ВІЛЕЙКА

## Каб мінімалка не расла

З мэтай захавання чытальнага фонду і набыцця новых кніг, гарадская бібліятэка ўвяла ў сваёй чытальнай зале платныя паслугі. Напрыклад, калі вы жадаеце ўзяць кнігу на дом, то за суткі павінны заплаціць 4% ад мінімальнай зарплаты (10000 руб.), за часопіс – 2% (5000 руб.).

*Ігар КІЦІКАЎ.*

РАДАШКОВІЧЫ

## Казах у беларускім экіпажы

Прадстаўнічая дэлегацыя наведала мястэчка – пасол Казахстана ў РБ **Юрый Клачкоў**, старшыня эканамічнага суда СНД **Аўезнур Кажэнаў**, работнікі нацыянальнага дзяржаўнага інфармацыйнага агенцтва "Хабар" ("Навіны"). Мэта – для 17 мільёнаў казахаў зрабіць рэпартаж з месца гібелі свайго земляка **Бахтураса Бейскбаева**.

Падчас II Сусветнай малодшы сяржант Бейскбаеў лятаў у экіпажы пад камандаваннем капітана **Аляксандра Маслава**. 6 мая салдату–казаху на яго радзіме прысвоена званне Героя.

Дакладна ўстаноўлена, што экіпаж Маслава загінуў і пахаваны пад Радашковічамі (раней лічылася, што гэта быў экіпаж Гастэлы). А прозвішча Бейскбаева значыцца на абеліску ў цэнтры мястэчка, у музеі школы–інтэрната.

Госці з'ездзілі да аднаго са сведкаў падзення самалёта **Міхаіла Сокала** ў вёску Дзікшняны. А на мемарыяле экіпажу Гастэлы вырашана ўпісаць і прозвішчы экіпажа Маслава.

*Сяргей АНДРЭЕЎ.*

# Маладзечанскі рынак не працуе

*МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак, сераду і чацвер мясцовы харчовы рынак не працаваў – першапачаткова яго закрылі на рамонт да пятніцы.*



У сераду ля ўваходу з'явілася аб'ява: "Не працуем з 25 па 30". Па суботу. Пазней дырэктар рынку **Аляксей Увараў** уключыў у нерабочыя дні і нядзелю. Адміністрацыя дамаўлялася, планавала за 5 дзён заасфальтаваць тэрыторыю. У падрадчыкаў знайшліся прычыны не ўкласціся ў адведзены тэрмін.



ФОТА СЯРГЕЯ КАПЫЛОВА.

На гэтыя дні стыхійны рынак утварыўся ўздоўж тэрыторыі. Па вул. Б. Хмяльніцкага ад уваходу на яго да ветлабараторыі сядзелі, прыкладам, у сераду гандляры садавіной, агароднінай. Бульба прадавалася на скрыжаванні вул. Л. Талстога і Б. Хмяльніцкага. А пад "сцяной мастакоў" гандлявалі малочнымі прадуктамі (з зямлі). Мяса ж павезлі на рэчавы рынак. Свае ровары гандляры прывязвалі да дрэў, туалеты ўтваралі ў бліжэйшых дварах, а кучы смецця – на шашы.

Такую сітуацыю, напэўна, прадбачылі.

*Васіль САВІЦКІ.*

## Расклад руху прыгарадных цягнікоў

| Маладзечна адпр. | Мінск прыб. | без прыпын. | Мінск адпр. | Маладзечна прыб. | |
|---|---|---|---|---|---|
| 4-32 | 6-12 | Сел., Кр., Ан. | 4-28 | 6-04 | |
| 5-30 | 7-17 | | 5-24 | 7-09 | |
| 6-03 | 7-45 | Сел., Кр., Ласі | 6-32 | 8-11 | |
| 6-30 | 8-19 | | 6-58 | 8-20 | |
| 7-26 | 9-04 | суб. Вяз., | 7-37 | 9-19 | суб. |
| | | Ан., Хм., Зял., | 7-37 | 9-30 | раб., нядз. |
| | | Крыж., М.М. | 8-15 | 10-02 | раб., нядз. |
| 7-42 | 9-29 | раб., нядз. | 8-21 | 10-02 | суб. |
| 8-23 | 9-49 | суб.Сел.,Кр., | 9-00 | 10-47 | раб., нядз. |
| | | Ласі, Рам., | 9-10 | 10-47 | суб. |
| | | Прал., Вяз., | 9-42 | 11-21 | суб., нядз. |
| | | Ан., Хм., Зял., | 9-53 | 11-41 | раб., нядз. |
| | | Крыж., М. | 10-36 | 12-24 | суб. |
| | | М., Рад. | 11-03 | 12-51 | |
| 8-24 | 10-12 | раб., нядз. | 12-00 | 13-47 | |
| 8-47 | 10-29 | суб. Рам., | 12-56 | 14-42 | |
| | | Прал., Ан., | 13-38 | 15-26 | |
| | | Хм., Бел., Ра | 14-59 | 16-40 | птн.,сб., ндз. |
| | | тамка | 15-36 | 17-22 | |
| 8-59 | 10-47 | раб., нядз. | 16-15 | 18-02 | |
| 9-48 | 11-35 | суб. | 16-39 | 18-14 | нядз. |
| 9-55 | 11-44 | раб., нядз. | 16-53 | 18-51 | раб., суб. |
| | | М.М. | 17-35 | 19-07 | нядз. |
| 10-41 | 12-29 | | 17-41 | 19-28 | (срд, птн. |
| 11-41 | 13-29 | нядз. | | 19-45) | раб., суб. |
| 11-43 | 13-22 | суб. Сел., | 18-16 | 19-52 | нядз. |
| | | Рам., Ан., | 18-27 | 20-15 | суб. |
| | | Хм., М. М. | 18-27 | 20-23 | раб. |
| 12-34 | 14-19 | нядз. Хм., | 18-40 | 20-31 | нядз. |
| | | М. М. | 19-13 | 21-00 | раб., суб. |
| 12-55 | 14-43 | раб., суб. | 19-37 | 21-24 | нядз. |
| 13-24 | 15-12 | нядз. | 20-26 | 22-10 | |
| 13-42 | 15-29 | раб., суб. | 21-14 | 22-58 | |
| 14-13 | 15-48 | нядз. Рам., | 22-38 | 0-18 | |
| | | Вяз., Ан., | **Маладз.** | **Гудагай** | |
| | | Хм., Зял., | 8-30 | 10-19 | штодз. |
| | | Крыж., Леб. | 13-19 | 15-09 | вых. |
| 14-34 | 16-24 | раб., суб. | 15-38 | 17-23 | штодз. |
| 15-00 | 16-38 | нядз. Рам., | 17-55 | 19-44 | штодз. |
| | | Ан., Хм., | 20-40 | 22-20 | штодз. |
| | | Зял., Крыж., | **Маладз.** | **Ліда** | |
| | | М. М. | 7-32 | 9-04 | Багд. вых. |
| 15-29 | 17-08 | нядз. Дуб., | 8-34 | 11-43 | штодз. |
| | | Вяз., Ан., | 12-33 | 15-42 | вых. |
| | | Хм., Крыж., | 14-29 | 16-37 | Юрац. |
| | | М.М. | | пятн. і вых. | |
| 15-31 | 17-19 | раб., суб. | 17-58 | 21-26 | штодз. |
| 16-02 | 17-34 | пятн., суб. | 20-35 | 23-48 | штодз. |
| | | Сел., Кр., Ласі, | **Маладз.** | **Крулеўшч.** | |
| | | Рам., Вяз., Ан., | 7-18 | 9-38 | вых. |
| | | Хм., Зял., Крж. | 8-32 | 10-53 | штодз. |
| 16-26 | 18-13 | | 13-02 | Полацк | |
| 17-03 | 18-39 | ндз. Сел., | 12-40 | 14-59 | вых. |
| | | Кр., Рам., Вяз., | 20-46 | 23-17 | штодз. |
| | | Ан., Хм., М. М. | **Гудагай** | | **Маладзечна** |
| 17-20 | 19-01 | раб., суб | 5-20 | 7-06 | штодз. |
| | | Сел., Рам., | 10-34 | 12-18 | штодз. |
| | | Ан., Хм. | 15-29 | 17-18 | вых. |
| 17-50 | 19-36 | | 17-41 | 19-24 | штодз. |
| 18-27 | 20-13 | раб., суб. | 20-15 | 22-01 | штодз. |
| 18-36 | 20-14 | нядз. Рам., | **Ліда** | | **Маладзечна** |
| | | Вяз., Ан., Хм., | 4-08 | 7-30 | штодз. |
| | | Зял.,Крж.,М. М. | 9-26 | Багд. | 11-02 вых. |
| 19-03 | 20-37 | нядз. Рам., | 9-06 | 12-31 | штодз. |
| | | Ан., Хм., Зял., | 12-06 | 15-20 | вых. |
| | | Крыж., Леб. | 16-10 | 19-27 | штодз. |
| 19-48 | 21-28 | Ан., Хм., | 18-44 | Юрац. | 20-58 пятн. і |
| | | М.М., Леб. | | | вых. |
| 20-26 | 22-08 | Ан., Леб. | **Крулеўшч.** | | **Маладзечна** |
| 21-09 | 22-53 | Леб. | 4-35 | 6-55 | штодз. |
| 22-25 | 23-49 | Сел., Ласі, | 10-00 | 12-20 | вых. |
| | | Баяры, Прал., | 15-21 | 17-41 | вых. |
| | | Ан., Хм., Зял., | 14-35 | Полацк | 19-34 |
| | | Крж., М.М.,Леб. | | | штодз. |

## Расклад руху пасажырскіх цягнікоў

| Маршрут | Адпр. пач. ст. | ст. Маладзечна | | Прыб. на канц. ст. | |
|---|---|---|---|---|---|
| Гомель–Рыга | 17-57 | 0-29 | 1-05 | 12-56 | цотн. |
| Унеча–Гродна | 12-54 | 0-38 | 0-48 | 6-51 | няцотн. |
| Віцебск–Гродна | 18-00 | 0-38 | 0-48 | 6-51 | цотн. |
| Масква–Калінгр. | 14-04 | 0-51 | 0-56 | 10-56 | штодз. |
| Калінінгр.–Масква | 15-15 | 1-37 | 1-40 | 15-51 | шт. да 22/09 |
| С.П.Б.–Варшава | 12-24 | 2-00 | 2-15 | 7-03 | Гр. шт. |
| Калінінгр.–Харкаў | 16-20 | 2-40 | 2-44 | 23-33 | няцотн. |
| Масква–Гродна | 16-44 | 3-35 | 3-42 | 9-07 | штодз. |
| Калінінград–Гомель | 18-10 | 4-06 | 4-10 | 11-20 | цотн. |
| Масква–Каўнас | 17-17 | 4-12 | 4-16 | 8-59 | штодз. |
| Рыга–Гомель | 18-28 | 5-31 | 5-55 | 13-21 | няцотн. |
| Беласток–Масква | 1-00Гр. | 6-10 | 6-15 | 19-55 | па 3, 4 днях |
| Полацк–Мінск | 1-30 | 6-19 | 6-45 | 8-33 | штодз. |
| Масква–Калінінгр. | 19-12 | 6-27 | 6-33 | 17-07 | штодз. па 23/9 |
| Чэляб.–Калінінгр. | 21-20 | 7-16 | 7-20 | 17-45 | 16, 24/6, 3, 13, 21, 29/7, 7, 17, 25/8, 2, 11, 21/9. |
| Мінск–Вільнюс | 6-20 | 7-43 | 7-45 | 9-57 | па 3, 5, 6, 7 днях |
| Вільнюс–Мінск | 6-52 | 10-34 | 10-36 | 12-18 | па 3, 5, 6, 7 днях |
| Львоў–Рыга | 19-11 | 11-34 | 11-49 | 22-50 | па 4, 7 днях |
| Варшава–С.П.Б. | 11-06Гр. | 15-57 | 16-13 | 8-40 | штодз. |
| Калінінгр.–Чэляб. | 7-55 | 18-10 | 18-14 | 6-32 | 10, 18, 27/6, 7, 15, 23/7, 1, 11, 19, 27/8, 5, 15/9 |
| Мінск–Полацк | 17-08 | 18-42 | 19-08 | 0-16 | штодз. |
| Вільнюс–Мінск | 15-41 | 19-32 | 19-34 | 21-11 | па 3, 5, 6, 7 днях |
| Мінск–Вільнюс | 17-58 | 19-35 | 19-37 | 21-33 | па 3, 5, 6, 7 днях |
| Калінінгр.–Масква | 10-10 | 20-11 | 20-16 | 9-27 | штодз. |
| Каўнас–Масква | 14-33 | 20-50 | 20-57 | 9-48 | штодз. |
| Гродна–Масква | 15-50 | 21-34 | 21-44 | 10-55 | штодз. |
| Харкаў–Калінінгр. | 23-58 | 21-46 | 21-50 | 8-25 | няцотн. |
| Гродна–Унеча | 16-24 | 22-11 | 22-15 | 11-53 | няцотн. |
| Гродна–Віцебск | 16-24 | 22-11 | 22-15 | 4-55 | цотн. |
| Рыга–Львоў | 11-45 | 22-57 | 23-12 | 15-40 | па 2, 5 днях |
| Масква–Беласток | 11-01 | 22-19 | 22-24 | 3-15Гр. | па 1, 2 днях |
| Гомель–Калінінгр. | 16-38 | 23-37 | 23-42 | 9-50 | цотн. |

## Афіцыйных даручэнняў «падвысіць» не было

***МІНСК. Дзяржаўны мытны камітэт афіцыйных даручэнняў ад урада па пытанні змянення ставак мытных пошлін на ўвозімыя аўтамабілі не мае. Аб гэтым заявіў старшыня ДМК Беларусі Вікенцій Макарэвіч.***

Тым не менш, ён не выключыў, што змяненні ўсё ж магчымыя, аднак звязваць іх з датай уступлення ў сілу новага Мытнага кодэкса (16 ліпеня гэтага года) ні ў якім выпадку не трэба. Пры гэтым назваць якуюсьці канкрэтную дату магчымага ўнясення змяненняў старшыня ДМК Беларусі не змог. В.Макарэвіч толькі адзначыў, што калі змяненні ставак ўсё-такі адбудуцца, то "яны не закрануць у горшы бок інтарэсы грамадзян".

*Аляксей АРЭШКА, БелаПАН.*

ФОТАМАДЭЛЬ РЭГІЁНА



*Яна, Маладзечна. 10 год. Любіць маляваць лялькі, чытаць казкі і спяваць песенькі.*

ФОТА АЛЯКСЕЯ ФЯЦІСАВА.

СТАРЫ АЛЬБОМ

## З фотамайстэрні пана Шэра



ФОТА З АЛЬБОМА ПЯТРА БІБІКА.

У дваццатыя гады нашага стагоддзя ў Смаргоні добра ведалі фатографа па прозвішчы **Шэр**. Старажылы, у якіх захаваліся фотаздымкі гэтага майстра, так і гавораць: "Гэта мае бацькі здымаліся ў Шэра".

**Палагея Станіславаўна і Уладзіслаў Уладзіміравіч Бібікі** сфатаграфаваліся ў Шэра незадоўга да эвакуацыі ў далёкую Казань, дзе ў 1920 годзе ў іх нарадзіўся сын Пеця. Сёння **Пётр Уладзіслававіч** жыве ў Смаргоні. Пра бацьку ён ведае мала, бо служачы пошты У. У. Бібік памер вельмі рана, а Палагея Станіславаўна з немаўляткам на руках і швейнай машынкай "Зінгер" (адзіным сваім багаццем) вярнулася хутка на радзіму, у Смаргонь. Тут, каб даць адукацыю сыну, пякла і прадавала на кірмашы знакамітыя смаргонскія абаранкі. Між іншым, у тыя часы гэтай справай займаліся вельмі многія жанчыны. І кожная пякла па-свойму, у кожнай быў свой сакрэт. Нездарма рускі вучоны **У. Пахлёбкін** назваў Смаргонь не толькі сталіцай абаранкаў, але і іх радзімай.

*Ала СТРАШЫНСКАЯ.*

## Па ваду да суседзяў

АСТРАВЕЦ. У пачатку сакавіка ў райцэнтры спусцілі ваду ў саджалцы. Праз нейкі час Астравецкае прадпрыемства меліярацыйных сістэм мусіла заняцца яе ачысткай. Але работы тут, як належыць, не распачаліся і па сёння.

У жыхароў вуліц Новая, Савецкая, іншых, што прыходзяць побач з саджалкай, узнікла праблема: у калодзежах знікла вада. Адсюль, натуральна, з'явіліся іншыя турботы, бо памыць адзенне ці прыгатаваць ежу без вады цяжкавата. За ёй даводзіцца хадзіць на іншыя вуліцы.

Вырашэнне пытання, як лічаць самі жыхары, напрамую залежыць ад хутчэйшага завяршэння ачысткі саджалкі. З'явіцца ў ёй вада, будзе і ў калодзежах. А пакуль што ім даводзіцца перабівацца і скардзіцца мясцовым уладам.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

КУЛЬТУРА

## Любоў аб'ядноўвае людзей

СМАРГОНЬ. Гульнёвая праграма, распрацаваная супрацоўнікамі раённага метадычнага цэнтра, была прадстаўленая на II Рэспубліканскім фестывалі нацыянальных культур, што праходзіў 22–24 мая ў Гродне.

А творчая праграма "Гары, на згасай, зорка любові", што падрыхтавала **Марына Клуйша**, стала яго своеасаблівым лейтматывам, бо толькі любоў здольная аб'яднаць людзей розных нацыянальнасцяў, культур.

Супрацоўнікі ўстаноў культуры горада і раёна пачалі падрыхтоўку да свята горада, якое пройдзе 3 ліпеня і будзе прысвечанае Дню незалежнасці Рэспублікі Беларусь.

## І адпачынак, і творчасць

ВАЛОЖЫН. Творчыя здольнасці дзяцей з Чарнобыльскай зоны, якія адпачываюць ў санаторыі–прафілакторыі "Налібоцкая пушча", у поўную сілу выявіў фестываль–агляд мастацкай самадзейнасці (праводзіўся 27 мая ў рамках фестывалю "Беларусь – мая песня"). Канцэртная праграма "Налібоцкая талака" стала яго кульмінацыяй.

## Прэстыжнае запрашэнне

МАЛАДЗЕЧНА. Для ўдзелу ў XII Міжнародным музычным фестывалі (Францыя, г. Бельфор) запрошаны гарадскі сімфанічны аркестр (дырыжор **Рыгор Сарока**). Ад'езд адбудзецца 26 мая.

*Тэрэса ВАСІЛЬЕВА.*

МАЛАДЗЕЧНА. У СШ №4 адкрыўся гарадскі агляд–конкурс малюнкаў "Мой горад – мой дом". Узялі ўдзел усе СШ горада, школа мастацтваў і мастацкая школа. Уладальнікі лепшых 30 работ атрымаюць альбомы і фарбы. Таксама будуць вызначаны 10 лепшых мастакоў, якім узнагарода – бясплатная паездка ў летнік.

Мне спадабаліся работы **Ярaслава Навуліка** (СШ №1) "Царква", **Аляксандра Андрыянава** (СШ №7) "Чорны кот", **Ксеніі Пруднікавай** (СШ №2) – без назвы.

*Таццяна МІР.*

ВАЛОЖЫН. 7 калектываў мастацкай самадзейнасці у праграме дзён культуры раёна выступілі на Маладзечаншчыне. На мяжы іх сустракалі караваем і кветкамі. Самадзейныя артысты сабралі поўныя залы ў Гарпасёлках Чысць, Беразінскае, Радашковічы і на астатнім шляху свайго выступлення.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## Будзе аркестр з імем

СМАРГОНЬ. Сёлета вядомаму на Смаргоншчыне народнаму цымбальнаму аркестру спаўняецца 50. Разам з райвыканкомам яго кіраўнікі звярнуліся ў аддзел культуры Гродзенскага аблвыканкома, каб насіць імя кіраўніка і заснавальніка **Аляксандра Дзяругі**. Цяпер цымбалісты знаходзяцца ў прыемным чаканні.

*Алесь СВІРЧУКОЎ.*

## Свята мікрараёна

***СМАРГОНЬ. Ва Усходнім мікрараёне ў нядзелю ад раніцы ладзілася свята. Тут віталі і ўшаноўвалі ветэранаў вайны і працы, старажылаў і будаўнікоў, чыімі рукамі ў пачатку васьмідзесятых пачынаў узводзіцца новы раён горада. Усе яны атрымалі каштоўныя падарункі.***

Не засталіся без увагі і шматдзетныя сем'і. **Сяргеевы, Нікіціны і Бібікі** таксама пайшлі з падарункамі, а маці шасці дзяцей **Любові Родзінай** уручылі медаль мацярынства.

Вучні СШ №5 разам з настаўнікамі і работнікамі бібліятэкі арганізавалі выстаўкі і наладзілі канцэрт мастацкай самадзейнасці.

*Ала СТРАШЫНСКАЯ*

АПОШНІ ЗВАНОК – 98

# Званок на канікулы

ВАЛОЖЫН. Для класнага кіраўніка педкласа СШ №2 **Уладзіміра Пучкова** і яго выхаванцаў настаў час збіраць камяні. Выпускнікі будуць здаваць адначасова і выніковыя школьныя, і ўступныя экзамены ва універсітэт імя М. Танка. Чацвёра з 12 "акаў" (11"А") паспрабуюць стаць студэнтамі факультэта гісторыі і замежнай мовы. Леташні педвыпуск – першы ў школе – стаў урaджайным. З 18 чалавек у ВНУ паступілі 17. Педклас – гэта ў першую чаргу спецыялісты для свайго раёна, што разумеюць улады і ўсяляк падтрымліваюць такую форму навучання.

Каб трапіць у педклас, пасля базавай адукацыі (9 класаў) трэба здаць экзамены. Сёлета да вучобы запрашаюць і вяскоўцаў. Пры школе ёсць інтэрнат. Можа, хтосьці палічыць гэта дарагім задавальненнем – 6–7 мінімальных зарплат трэба выкласці за год педуніверсітэту. Бо дзеці на працягу двух гадоў ездзяць у сталіцу здаваць кантрольныя залікі, экзамены, слухаць лекцыі. Працуюць па спецыяльна падрыхтаваных для іх праграме. Навучэнцы педкласа з'яўляюцца адначасова і слухачамі факультэта даўніверсітэцкай падрыхтоўкі. Іншагародні дадаткова трэба аплачваць харчаванне, калі, зразумела, тыя жывуць у інтэрнаце. Хаця дырэктар СШ №2 **Святлана Глябовіч** лічыць, што цяжка веды параўноўваць з грашыма. Дарэчы, гадзіна прыватнага рэпетытарства ў прафесара каштуе ад $5.

Ужо сёння ў педклас пададзена 25 заяў. Пашчасціць не ўсім.

*Наталля ШТЭЙНЕР, Васіль САВІЦКІ.*



ФОТА АЛЯКСЕЯ ФЯЦІСАВА

## Пятая працоўная

***СМАРГОНЬ. Магчымасць падзарабіць грошай прапанаваў старшакласнікам мясцовы лясгас. За прапалку кожнай соткі пасадкі маладняку школьнікам абяцаюць плаціць 37 тысяч рублёў.***

Акрамя таго, дзяцей будуць карміць у гэты час параўнальна таннымі сняданкамі і абедамі. Праўда, работа на палетках не будзе залічвацца ў традыцыйную школьную летнюю практыку, якую вучні мусяць праўсці на пришкольным участку або ў майстэрнях.

*Ала СТРАШЫНСКАЯ.*

# Навучыцеся жыць з алергіяй,

## калі ўжо нельга ад яе пазбавіцца

***Маладыя бацькі былі ў паніцы. Малы–першынец, якога пачаставалі садавінным напоем, раптам занядужыў. Шчочкі заліліся пунсам, на руках праступіла высыпка, слёзы - не супыніць... Урач адразу ж выкліканай "Хуткай дапамогі" заключыла: эксудатыўны дыятэз. І папярэдзіла: не захапляйцеся экзатычнымі прадуктамі.***

***У наш час такія праяўленні харчовай алергіі не абыходзяць большасць дзетак – надта ўжо шмат знешніх раздражняльнікаў абрынулася на стварэнне, якое ледзь толькі з'явілася на свет. Пра асаблівасці алергічных захворванняў у дзяцей і спосабах супрацьстаяць ім расказвае загадчыца II кафедрай педыятрыі Беларускага інстытута ўдасканальвання ўрачоў доктар медыцынскіх навук Людміла БЯЛЯЕВА.***

*- Людміла Міхайлаўна, давайце ўявім такую сітуацыю. Я, будучы бацька, пакутую на якую–небудзь форму алергіі і, натуральна, не хацеў бы "надзяліць" ёй сваё дзіця. Што вы параіце?*

- Разумееце, па–першае, вашае захворванне можа і не перадацца дзіцяці. Працэнт рызыкі – недзе пяцьдзеся на пяцьдзесят. Але і гэтая доля верагоднасці, вядома, высокая. Невыпадкова ж сёння да 10% дзяцей пакутуюць на алергію ў той ці іншай яе форме.

Усе алергічныя рэакцыі ўзаемазвязаныя, маюць нібы агульную роўніцу. Хаця ў кожнай з праяваў алергіі – свой правакуючы фактар. У харчовай, – да прыкладу, шакалад ці бялок курынага яйка; у палінозу - пыльца цвітучага дрэва; у лекавай – непераноснасць шэрагу прэпаратаў, часцей за ўсё антыбіётыкаў... Але на імунным узроўні гэтыя фактары дзейнічаюць такім чынам, што запускаюць адзін і той жа механізм. Механізм агульны, але рэакцыі, ім выкліканыя, б'юць па розных "мішэнях" і маюць самыя розныя клінічныя праявы: ад банальнага насмарку да цяжэйшага бронхаспазму.

Дык вось, у будучага бацькі я перш за ўсё запыталася: як даўно, у якой форме назіраюцца ў вас алергічныя праяўленні? Ці нарастаюць яны з гадамі? Ці пакутуюць на гэтае захворванне вашыя бацькі і жонка? А вы, да прыкладу, адказваеце: «Ды не, усё, здаецца, нармальна, вось толькі з дзяцінства малако не люблю». Варта, маўляў, выпіць малака – і пачынае страўнік барахліць, ці, дапусцім, скура свярбець. Выслухаўшы гэта, я дазволю сабе вызначыць: справа не ў тым, што вы "не любіце" малако, а ў тым, што не можаце яго ўжываць - ваш арганізм пра гэта і "гаворыць" вам. А таму, калі народзіцца дзіця, не пачынайце яго карміць малочнымі прадуктамі: гэта можа выклікаць алергічную рэакцыю.

***- Вы сказалі: «не пачынайце карміць...» Ці абазначае гэта, што пазней, па меры сталення малога, табу можна будзе зняць?***

- Даволі магчыма. Ведаеце, ёсць такі выраз: «перарос хваробу». Гэтая з'ява даволі распаўсюджаная – споўніўся год малому і дыятэз нібы рукой зняло. Хаця калі–небудзь – нават у дарослага чалавека – ён можа зноў праявіцца, і самым нечаканым чынам: у форме дэрматыту ці экземы...

***- Атрымліваецца, адзін і той жа алерген здольны выклікаць у дзіцяці і дарослага зусім розныя рэакцыі?***

– Дзіцячая алергія, натуральна, адрозніваецца ад дарослай – з прычыны ўжо саміх асаблівасцей дзіцячага арганізма. Дарослы, калі ўлічыць яго большую і фізіялагічную, і псіхалагічную ўстойлівасць, умее лакалізаваць хваравітыя праявы. Дзіцяці ж гэта даецца значна больш складана. Удыхне пыльцу нейкай расліны – і ў яго могуць развіцца цяжэйшыя бронхаспазм, ацёк Квінке, крапіўніца. А ў дарослага рэакцыяй на тую ж пыльцу будзе, да прыкладу, вазаматорны рыніт у выглядзе насмарку. І яшчэ адна асаблівасць: у дзяцей часцей, чым у дарослых, назіраецца спалучэнне алергічных праяў з цяжкай неадкладнай рэакцыяй, якая патрабуе часам вельмі сур'ёзных мер – да гаспіталізацыі.

***– І што ж сённяшняя медыцына можа супрацьпаставіць алергіі?***

– Справа ў тым, што алергія – гэта група захворван-

ПРАБЛЕМА

# Загубілі мільёны? Не бяды, дзяржаўныя

*МАЛАДЗЕЧНА. Шэсць год таму па Вялікім Гасцінцы пачаў узводзіцца інтэрнат радыёзавода "Спадарожнік". Завадчане, якія чакалі паляпшэння сваіх жыллёвых умоў, з аптымізмам глядзелі наперад – як-ніяк маласямейка. Аднак пасля вываду дзвюх каробак 9-павярховак будаўніцтва спынілася. Сёння інтэрнат уяўляе сабой прытулак для бамжоў і навучэнцаў блізкіх вучылішчаў.*

Калі першых ганяюць, то з кампаніямі падлеткаў звязвацца небяспечна. Чытаючы надпісы на сценах, лішні раз пераконваешся, як моладзь цікавяць зносіны з супрацьлеглым полам. Сам жа будынак (асабліва прыбудова пад сталоўку, актавую залу) пачаў разбурацца.

Аконныя рамы вырываюць і расцягваюць. Сталярка, што захавалася, шмат дзе прагніла. Вінаватага, хто адкажа за загубленыя мільёны (ці мільярды), зразумела, не знайсці. Ды такое пытанне і не ставіцца. Змянілася кіраўніцтва "Спадарожніка". І які лёс даўгабуда?

600 работнікаў радыёзавода стаяць на прадпрыемстве ў чарзе на жыллё. Па словах памочніка дырэктара па быце **Юрыя Клячына**, інтэрнат быў уласнасцю завода. Толькі за заводскія грошы яго не дабудаваць. Стварылі жыллёва–будаўнічы кааператыў, які сфарміраваўся на аснове заводскай чаргі на жыллё. Доўгі час ідзе працэс бязвыплатнай перадачы будынка ва ўласнасць ЖБК. Пакуль рыхтаваліся паперы, мяняліся формы, патрабаванні. На сёння засталося ў міністэрстве вырашыць адно пытанне. І пасля за тыдзень можна адкрыць рахунак пад будаўніцтва.



«У вобласці» ёсць ліст гарвыканкома, каб летам адкрыць фінансаванне. Там жа пазначаныя тэрміны ўводу будынка ў эксплуатацыю – наступнае лета. Кошт кватэры будзе ад 3 да 4 тысяч долараў. Зразумела, членам кааператыву дадуць крэдыт. Пакоі неблагія. Кватэра мае каля 40 кв. м агульнай плошчы. Праўда, ёсць 2 недахопы – калідорны тып і адсутнасць балконаў.

Старшыня прафкома завода **Аляксандр Міхасёнак** адзначыў, што кожны месяц чарга на жыллё расце. І гэта нягледзячы на тое, што прадпрыемства не будуе жыллё. Неаднаразова пытанне па даўгабудзе ўзнімалася. Напрыклад, на апошняй канферэнцыі. Справу тармозіць пытанне ўласнасці. "Наверсе" не могуць вырашыць, якой методыкай карыстацца, як і што падлічваць.

А ў калектыве па розным ставяцца да ўступлення ў ЖБК. Нават абураюцца – маўляў, каб я ведаў, што атрымаю кватэру, уступіў бы, чаму не папярэдзілі. У інтэрнат жа я не ішоў.

Пакуль вырашаюцца шматлікія арганізацыйныя пытанні, будынак інтэрната працягвае разбурацца. І такое ўражанне, што нікому да гэтага няма справы. Ці будзе што дабудоўвацца?

***Васіль САВІЦКІ,***

ФОТА СЯРГЕЯ КАПЫЛОВА.

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

*На жаль, сёння «Базарнага дня» няма - аб прычынах сказана на 1-й стар.*

## Партызаны–падпальшчыкі

МАЛАДЗЕЧНА. За тыдзень адбыліся 4 узгаранні ў падвалах шматпавярховак. У дзевяціпавярхоўцы па Драздовіча, 5 кватэранаймальнікі накідалі смецця ў падвал ля шчытавой. Нехта падпаліў. Шчытавая згарэла і дом на працяглы тэрмін застаўся без святла, выйшлі са строю тэлефоны, калектыўная антэна.

Самым пажарнанебяспечым участкам у мясцовым лясніцтве лічыцца тэрыторыя ля інфекцыйнай бальніцы. Сёлетняй вясной менавіта там адбыўся адзіны ў лясгасе пажар. Агонь прайшоў па плошчы ў 20 сотак. Ахвяраў, як і падпальшчыкаў, няма.

***Аддзел інфармацыі.***

## Адзінае дзіця

АСТРАВЕЦ. Урач тэрытарыяльна–медыцынскага аб'яднання на ўласным аўтамабілі наехаў на 2–гадовага хлапчука.

Адразу павёз траўміраванага ў бальніцу. Але жыццё выратаваць не ўдалося. У шоку аўтааматар знік. Праз суткі сам прыехаў у аддзел міліцыі.

Астравец напоўнены самымі неверагоднымі чуткамі – сітуацыя жудасная. Усе кропкі над "і" расставіць следства.

***Аддзел інфармацыі.***

ТРАНЗІТ

# Дарога, дарога, ты бачыла многа

ВІЛЕЙКА. Актыўнымі тэмпамі вядзецца рэканструкцыя Шылавіцкага кальца, што на скрыжаванні дарог Вілейка – Смаргонь і Мінск – Нарач. Пасля таго, як некалькі іншамарак, спяшаючыся на возера Нарач, выскачылі на ўнутраны газон, прынята рашэнне "прарэзаць" кальцо. Цяпер дарога Мінск – Нарач будзе галоўнай.

З красавіка праз Вілейку значна ўзрос транзіт грузавых машын з літоўскімі і расійскімі нумарамі (глядзі схему). Тлумачыцца гэта тым, што пасля сакавіцкіх падзей у Рызе расійскі ўрад прыняў санкцыі супраць Латвіі адносна транзіту грузаў праз яе тэрыторыю. Такім чынам, узрасла нагрузка на расійскі порт Калінінград і літоўскую Клайпеду. А прамая і найкарацейшая дарога з іх на Маскву праходзіць праз Вілейку. Тут ёсць свае плюсы (павелічэнне попыту на паліва) і мінусы (забруджванне наваколля выхлапнымі газамі).

***Ігар КІЦІКАЎ.***




САПРАЎДНАЯ АМЕРЫКА

# Welcome to Iowa

*Працяг. Пачатак у №№ 8-21.*

## Паміж Каспаравым і Карпавым. І з Еўтушэнкам



У Дэ Мойне лёс звёў з чалавекам, пра якога раней давялося толькі чытаць у савецкай прэсе. Аматарам высокай палітыкі і шахматаў яно знаёмае - **Валянціна Фаміных**.

Пра яе можна сказаць як пра перакладчыцу, якая ў сваім прафесіяналізме перарасла рамкі прафесіі – удзельнічала ў сустрэчах кіраўнікоў дзяржаў на самым высокім узроўні. Як паўнапраўны прадстаўнік краіны з назвай СССР. Многім вядомым людзям яна дапамагла ў міжнародных перамовах, пры дзелавых сустрэчах. Пра яе з цеплынёй і ўдзячнасцю адгукаліся **Шэварднадзе, Ельцын і Сяргей Хрушчоў (унук Мікіты Сяргеевіча)**, шахматысты **Каспараў і Карпаў** (цікава, што ў розны час працавала яна ў "камандах" абодвух шахматных каралёў), многія іншыя вядомыя людзі. Дапамагла Валянціна і ў нашай стажыроўцы.

За чвэрць стагоддзя яна з дзелавымі візітамі наведала амаль 40 краін свету. Як кансультант, перакладчык і рэферэнт. Працавала ў буйнейшых амерыканскіх кампаніях з вядомымі ўсяму свету бізнесменамі. Некалі марыла стаць балерынай і вучылася на яе. Спартыўная фігура засталася, і невядома ці страціў нешта балет. А вось многія вядомыя людзі ўдзячныя Валянціне Фаміных.

***Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.***

...няў, з якімі неабходна навучыцца жыць. Каб не выбівацца з рытму жыцця, адчуваць сябе паўнацэнным чалавекам, трэба пастарацца зменшыць колькасць абвастрэнняў. Лепш прыняць меры прафілактыкі, чым пазней змагацца з наступствамі. Таму, ведаючы, што ў вашага дзіцяці будзе кантакт з алергенам – ну, ніяк гэтага не пазбегнуць – наперад дайце яму лекі.

Арсенал антыгістамінных прэпаратаў сёння дастаткова вялікі, у кожнага з іх – свае перавагі і недахопы. Вам неабходна выбраць той, што пры максімуме эфекту дасць мінімум пабочных уздзеянняў. Праблема яшчэ і ў тым, што большасць антыгістамінных прэпаратаў трэба прымаць 2–3 разы ў дзень; мала таго, што гэта ўскладняе жыццё – прымаемыя шматразова, яны валодаюць седатыўным (г. зн., снатворным) уздзеяннем. Таму з поўнай адказнасцю кажу: сёння няма цаны такому прэпарату, як кларыцін – у плане і прафілактыкі, і нейтралізацыі алергічнай рэакцыі, якая пачалася ўжо. Тым болей, што для малых кларыцін выпускаецца яшчэ і ў выглядзе садавіннага сіропу. Ужо праз паўгадзіны пасля прыёму гэтага лякарства пачынаецца яго ўздзеянне, якое захоўваецца на працягу сутак. І – ніякіх пабочных эфектаў!.. Маючы такога памочніка, як кларыцін, можна навучыцца жыць са сваёю хваробай. Калі ўжо нельга пазбавіцца ад яе, вы і ваша дзіця дастаткова ўпішацеся ў сённяшняе жыццё, не будзеце адчуваць сябе абдзеленымі лёсам.

*– Дзякуй за гэтую пазнавальную гутарку. Спадзяюся, яна дапаможа многім нашым суайчыннікам.*

***Гутарыў Уладзімір ВЕСЯЛОЎСКІ.***

МЫ І ЗАКАНАДАЎСТВА

# Вера ў закон

***У свой час Вярхоўны Савет прытрымліваўся прынцыпу прыярытэту інтарэсаў грамадзяніна перад інтарэсамі дзяржавы. Прымаліся законы, якія прадугледжвалі льготы. Трэба прызнаць, што яны патрэбныя, пакуль не забяспечана кожнаму жыхару зарплата ці пенсія на ўзроўні не ніжэй за мінімальны спажывецкі бюджэт.***

4 гады таму пачаўся адкат назад. Недахоп грошай у бюджэце стаў усё больш кампенсавацца за кошт грамадзянаў. У 1995 годзе прыпынена дзеянне шэрагу артыкулаў законаў, якія прадугледжвалі льготы. Адразу іх пазбавіліся інваліды, ветэраны, ваеннаслужачыя, пацярпелыя ад аварыі на ЧАЭС, настаўнікі і многія іншыя.

Уведзены збор з уладальнікаў аўтатранспарту. Пасля гэтага з'явілася абавязковае страхаванне дамоў вяскоўцаў, што таксама можна разглядаць як чарговы падатак.

Цяпер вядзецца, у асноўным, будаўніцтва кааператыўнага жылля, якое сёлета, па словах прэзідэнта, разам з будаўніцтвам дарог мае прыярытэтнае значэнне. А дзе ж узяць грошы, каб даваць крэдыты? У немалой ступені і за кошт іншых грамадзянаў.

Дзеля гэтага 5 мая прэзідэнт падпісаў Закон "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон РБ "Аб прыватызацыі жыллёвага фонду ў рэспубліцы Беларусь". Да гэтых змяненняў кошт аб'ектаў прыватызацыі ў дамах, уведзеных у эксплуатацыю да 1 студзеня 1992 года, вызначаўся ў цэнах 1991 года, а ўведзеныя пазней – у цэнах, што дзейнічалі на момант уводу дома ў эксплуатацыю. Па такіх ільготных цэнах свае кватэры за мінулыя 6 гадоў прыватызавала каля 45% пражываючых у дзяржаўным жыллёвым фондзе. Цяпер і гэтая льгота адабраная. Змяненнямі прадугледжана, што кошт прыватызуемых кватэр вызначаецца ў цэнах, што дзейнічаюць на дзень падачы заявы аб прыватызацыі.

Атрымліваецца, што амаль палова ўладальнікаў дзяржаўнага жылля прыватызавала свае кватэры, кошт якіх, у большасці выпадкаў, вызначаўся некалькімі дзесяткамі тысячаў рублёў. Другая ж палова, якая не паспела (або не спяшалася гэта рабіць, спадзеючыся на стабільнасць беларускага заканадаўства), будзе цяпер плаціць дзесяткі мільёнаў. Таму, акрамя адмены льготы, можна адначасова канстатаваць, што цэны на прыватызуемае жыллё, якое пабудавана да 1991 года, адразу падняліся ў тысячы разоў.

Натуральна, адзначанае змяненне ў заканадаўстве наўрад ці будзе стымулам для далейшай прыватызацыі, але веру ў стабільнасць заканадаўства ва ўмовах сённяшняга рэжыму падарве грунтоўна.

***Аляксандр ДЗЕРГАЧОЎ, Смаргонь.***

